*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2021, № 7(66). Ліпень

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Вучні і настаўнікі Слонімскай беларускай прагімназіі



Гэты ўнікальны здымак друкуецца ўпершыню. На ім бачым вучняў і настаўнікаў Слонімскай беларускай прагімназіі (была такая навучальная ўстанова). Здымак зроблены ў Слоніме каля сцяны кляштара бернардзінцаў (каля цяперашняга Свята-Троіцкага сабора) у 1942 годзе. Хутчэй за ўсё фатографам быў Язэп Шыманчык.

Аднавіць прозвішчы ўсіх вучняў і настаўнікаў, прысутных на фота, ужо немагчыма. Усё ж прайшло амаль 80 гадоў. У згаданай прагімназіі вучылася сланімчанка Еўфрасіння Аляксандраўна Чаркес. Ёй ужо больш за 90 гадоў. Еўфрасіння Аляксандраўна толькі прыгадала, што ў першым радзе сядзіць злева ў капялюшыку настаўніца біялогіі Зямброўская. А я ёй паказаў на здымку Антона Валынчыка, які выкладаў спевы. Ён сядзіць у першым радзе трэці справа. Самая крайняя злева на фота стаіць Фарыда Міцкевіч (Байрашэўская). Яе нядаўна не стала.

Так што з усіх, хто сфатаграфаваны на гэтым старым здымку, на сённяшні дзень жыве толькі Еўфрасіння Чаркес. А можа нехта з нашых чытачоў тут пазнае сваіх дзядуляў і бабуляў, а потым напіша нам пра іх лёс? Абавязкова змесцім на старонках нашага выдання.

●Сяргей Чыгрын

ПОШУКІ і ЗНАХОДКІ

# З хатняга архіву Язэпа Вількоўскага

У 2015 годзе ў Мінску выйшаў з друку зборнік твораў слонімскага паэта Язэпа Вількоўшчыка (Іосіфа Вількоўскага, 1899 — 1984) “Прыкрыты сэрца боль”, які ўкладаў разам з Сяргеем Яршом. Творы земляка давялося збіраць па розных старых беларускіх выданнях.

Нядаўна мне трапіў у рукі фотаздымак Язэпа Вількоўшчыка, які быў зроблены ў Слоніме ў 1940 годзе ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна. Пра яго мы раней не ведалі. Аказалася, што па гэтым фотаздымку слонімскі мастак Г. Саўчук у тым жа годзе намаляваў партрэт паэта. Партрэт і фотаздымак сёння публікуюцца.

У 1986 годзе Слонім наведаў пісьменнік і краязнавец Уладзімір Содаль (1937 — 2015). Ён даведаўся, што ў нашым горадзе жыве Язэп Вількоўшчык і хацеў сустрэцца з ім, але спазніўся — Язэпа Вількоўшчыка не стала ў 1984 годзе. Тым не менш Содаль сустрэўся ў Слоніме з сынам паэта Андрэем Іосіфавічам. Малодшы Вількоўскі падараваў яму бацькаў *“Słownik”*. У ім рукой Язэпа Вількоўшчыка на польскай мове запісаны нейкія матэматычныя і хімічныя формулы, тэрміны. Разабрацца мне ў іх было вельмі складана.



*Язэп Вількоўскі, 1940 г. Фотаздымак Барыса Вайнштэйна*

Далей ў нататніку ёсць чыстыя старонкі, але на іх падчас гутаркі з Андрэем Вількоўскім запісы рабіў сам Уладзімір Содаль. Ён пытаўся ў сына пра бацьку і той, што памятаў і ведаў, яму распавядаў. З тых запісаў можна даведацца, што Язэп Вількоўшчык многа чытаў кніг. У Слоніме падчас Другой сусветнай вайны працавала кнігарня, з Вільні прывозілі шмат беларускіх выданняў. Сярод іх былі і кнігі, выдадзеныя да 1917 года. Прадавалася ў Слоніме і кніжачка слонімскага паэта Кандрата Лейкі “Снатворны мак” (Вільня, 1912). Гэтыя кнігі набываў і Язэп Вількоўшчык.

У *“Słowniku”* ёсць і запісы, якія не датычаць слонімца. Пісаў іх усё той жа Уладзімір Содаль. Давайце іх пачытаем:

1. У Слонімскім краязнаўчым музеі ўбачыў вялізарны расчэплены валун. Трохі спрабаваў распытаць пра яго, але ніхто толкам не мог сказаць. Адзінае, пра што сказалі, што ляжыць ён пры дарозе ні то на Альбярцін, ні то яшчэ дзе, але паблізу Слоніма. Пра гэты ж валун спытаў у

Міхася Літвінчыка. Ён сказаў: “А яго пярун расчапіў”. “А хіба ж пяруны б’юць у камень?” — пытаюся. “Б’юць! — пачуў упэўнены адказ. — Я сам бачыў, як каля Казловічаў у 1944 годзе адбылося падобнае. Толькі лясь — і сіні дымок. Стаўбуновы камень быў”.

2. Са Слоніма з хаты Міхася Літвінчыка прывёз грыфельную дошку з грыфелям. Грыфельная дошчачка належала яго цесцю Каласоўскаму Вацлаву Міхайлавічу, 1895 года нараджэння.

3. Цяпун — трава ў лесе, сама апыльваецца.

4. У нас, як хто хоча, гэтак і ляскоча.

Цяпер невялікі каментар да гэтых запісаў. Відаць, размова ідзе пра Расколаты камень у лесе каля вёскі Якімавічы за Альбярцінам.

Слонімец Міхась Літвінчык даўно памёр. Ён жыў на вуліцы Багушэвіча, працаваў шафёрам. Шмат гадоў збіраў і запісваў, а таксама сам прыдумваў розныя прыказкі і прымаўкі. Пра Літвінчыка нават БТ паказвала цэлую перадачу.

●Сяргей Чыгрын



Партрэт Язэпа Вількоўскага, 1940 г. Мастак Г. Саўчук






# Паштоўка з фота Гальяша Леўчыка




У “СК” летась была публікацыя пра тое, што слонімскі паэт і краязнаўца Гальяш Ляўковіч (Гальяш Леўчык) быў фатографам-аматарам.* Перад Першай сусветнай вайной яго здымкі трапілі на паштоўкі. Прынамсі на адной з іх ёсць надпіс пра аўтарства. Гэтае ж фота бачым і на іншых паштоўках, у тым ліку камбінаваных, дзе змешчана адразу некалькі здымкаў. Але не было выявы адвароту паштовак. І вось нарэшце яго маем.

На сайце ay.by прадаецца паштоўка, выдадзеная перад Першай сусветнай вайной. На ёй — фота, зробленае ў касцёле бернардзінак. Паштоўку выдала польская кнігарня ў Слоніме, аўтарам фота пазначаны *“амат*[ар]*”* Ляўковіч. Гэты ж здымак ёсць на іншай паштоўцы, побач з вядомым нам фота Апанасаўскай вуліцы.**

●Сяргей Ёрш

**Ёрш С. Гальяш Леўчык — фатограф // Слонімскі край, 2020, № 2(48). Студзень. С. 5-6.*

***Тамсама. С. 6.*








# Зноў пра фатографа Салавейчыка

"СК" неаднаразова пісаў пра слонімскага фатографа Якава Салавейчыка і яго нашчадкаў.* Ён закрыў сваю фотамайстэрню ў нашым горадзе пасля жахлівага пажару траўня 1881 года. Але калі дакладна, невядома. Ужо ў чэрвені 1881-га Салавейчык меў дазвол на адкрыццё фотамайстэрні ў Гродне.

У Беластоку ў прыватнай калекцыі адшукаўся фотаздымак, падпісаны "Партрэт мужчыны", зроблены ў Слоніме ў фотамайстэрні Салавейчыкаў у 1883 годзе (калі пазначаная дата не памылковая).** Атрымліваецца, што Якаў Салавейчык пасля пажару цалкам не развітаўся з "бізнесам" у Слоніме, аднавіў у нашым горадзе фотамайстэрню. Магчыма, даверыў яе сыну Язэпу (ці нейкаму іншаму спецыялісту), а сам абжываўся ў губернскім цэнтры. Менавіта так дзейнічаў Язэп Салавейчык у 1885-м, калі падчас пажару ў Гродне згарэла яго фотамайстэрня (бацька памёр у 1884 годзе). Ён пераехаў у Беласток і наладжваў там новую "кропку", але свой "бізнес" у Гродне прадаў толькі ў 1887-м.***

●Арцём Салейка







*Чыгрын С. Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 4(14). Красавік. С. 4-5; М.І. Фатографы і пажар 1881 года // Слонімскі край, 2017, № 5(15). Травень. С. 2; Салейка А. Пра слонімскага фатографа Салавейчыка і яго нашчадкаў // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 2.

**Sygnatura: PL_2004_1_1_24_280; Marczak Mieczysław, Białostocki Ośrodek Kultury // http://pbc.biaman.pl/dlibra/docmetadata?id=52350

***Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 2.

# Абаронца слонімцаў МарцінВаладковіч

*У сярэдзіне XIX стагоддзя ў нашым горадзе было “не да законаў”*



У нашай гісторыі яшчэ ёсць нямала незаслужана забытых асобаў, якія вартыя памяці нашчадкаў. Пастунова іх справы “праяўляюцца” для нас, а іх імёны вяртаюцца. І кожны раз здзіўляешся, як можна было забыць пра такога чалавека?! Які столькі зрабіў дабра для землякоў, не шкадуючы сябе! Чужыя ўлады, змяняючы адна другую, вынішчалі гістарычную памяць беларусаў, выкрэслівалі, перапісвалі, замоўчвалі. У незалежнай Беларусі такога быць ужо не павінна.

## Бурмістр Слоніма

Марцін Валадковіч (Валадкевіч), сын Рыгора, паходзіў з дробнапамесных дваран (са шляхецкага роду герба “Радван”). Яго дваранства ў Расійскай імперыі было прызнана. Дзе Валадковіч нарадзіўся, пакуль дакладна невядома. У Слонім ён пераехаў дзесьці ў пачатку 1820-х гадоў. Магчыма, да сваякоў. Быў праваслаўны. Нейкі час трымаў у Слоніме карчму.

З манаграфіі Сяргея Токця вядома, што Марцін Валадковіч (Валадкевіч) двойчы выбіраўся на трохгадовы тэрмін бурмістра ў Слоніме.[1] Найхутчэй у 1830-1840-я гады. Пра слонімскі перыяд жыцця Валадковіча падрабязную, але няпоўную інфармацыю знаходзім у кнізе Барыса Клейна, якая выйшла ў далёкім 1968 годзе.[2] Гісторык збіраў звесткі ў архіўных дакументах. З іх паўстае *“прамы, непадкупны, рашучы”* чалавек, гатовы рызыкаваць, дапамагаючы землякам. Калі аднойчы ў слонімскіх мяшчанаў узнік канфлікт з-за прыгарадных сенакосаў з графіняй Тыман, Валадковіч сабраў натоўп і даў бой “захопнікам”. Справа ледзь не скончылася судом.

У губернскім Гродне “байцоўскія якасці” Марціна Валадковіча заўважылі яшчэ ў 1837-м. Ён прасіў прыцягнуць да адказнасці падрадчыкаў (гэта былі заможныя купцы-яўрэі), вінаватых у незаконных высечках лесу, які належаў дзяржаве. Калі ў губерні справу фактычна сабатавалі, слонімец пачаў пісаць скаргі ў міністэрства, імператару. І пэўных поспехаў дасягнуў. Але нажыў і ворагаў. Высветлілася, што падрадчыкі дзейнічалі ў паразуменні з падляснічым Белазерскім, а яго бацька быў дарадцам у губернскім праўленні, быў добра знаёмы з губернатарам.

## Карупцыя і здзекі

У сярэдзіне 1840-х Валадковіч стаў абаронцам сялянаў на Слонімшчыне. Пісаў скаргі па іх праблемах: і сам ездзіў на вёсках, і да яго прыходзілі з іх пасланцы.

У пачатку 1846 года са Слоніма ў Санкт-Пецярбург была даслана скарга міністру дзяржаўных маёмасцяў Паўлу Кісялёву на здзекі арандатараў над дзяржаўнымі сялянамі. У ёй заяўлялася пра карупцыю на павятовым і губернскім узроўні, у тым ліку чыноўнікаў міністэрства, якія мусілі сачыць за законнасцю. Прыводзіўся прыклад, калі валасны пісар Часноўскі арганізаваў цялесныя пакаранні для дзясяткаў сялян, а пасля тры дні ўтрымліваў іх пад вартай. Білі нават іх дзяцей, якія прынеслі для бацькоў ежу. Калі такое дазваляў сабе валасны пісар, то можна ўявіць, што вырабляў, ці чым пагражаў сялянам акруговы начальнік Макараў. Міністра прасілі, каб

расследаванне злоўжыванняў не даручалі губернскім чыноўнікам.

Вясной таго года прыехаў у Слонім са сталіцы расійскай імперыі надворны дарадца Чарнуцкі. Акруговы начальнік Макараў збіраў натоўпы сялян, але разбіральніцтва было фармальным. Валадковіч пра гэта даведаўся і напісаў Чарнуцкаму, што калі адносіны не зменяцца, каб не адцягваў сялян ад працы. Калі "камісія" сустракалася з сялянамі ў маёнтку Боркі, тыя проста разыйшліся. Пра гэта ў Гродна з абурэннем пісаў павятовы суддзя Гліндзіч.

Марцін Валадковіч паскардзіўся на Чарнуцкага міністру, і таго адклікалі, прыслалі іншага прадстаўніка міністэрства — калежскага асесара Дзядзькова. Ён мусіў разабрацца, наколькі справядлівыя новыя скаргі. А суддзя тым часам прасіў губернатара забараніць слонімскаму двараніну Валадковічу ўмешвацца ў справы дзяржаўных сялян.

## Дэманстрацыя сілы

Барыс Клейн згадвае, як у красавіку 1846-га да Валадковіча прыйшлі шэсць сялян з просьбай скласці ад імя жыхароў некалькіх вёсак скаргу на пісара Жэромскага. Калі на наступны дзень да яго дома ішлі сяляне Андрэй Макарэвіч і Дзям'ян Федаркевіч, іх схапілі паліцэйскія. Акруговы начальнік Макараў загадаў іх весці ў суд, а адтуль правесці ў турму міма дома Марціна Валадковіча, каб ён гэта бачыў. Гэта была дэманстрацыя сілы.

Пра ўсё гэта Валадковіч напісаў губернатару Фёдару Васькову, падкрэсліў: *"Начальства… не дае абароны сялянам"*. А той проста ашалеў.

Паводле Клейна, на той



*Мікалай I*

час Марцін Валадковіч быў ужо пажылым: *"чалавек хворы, небагаты, без сувязяў і заступнікаў, бацька траіх малых дзяцей"*. Пра жонку піша, як пра маладую жанчыну.

Тым часам міністр Павел Кісялёў разам з кіраўніком корпуса жандараў графам Арловым заснаваў камісію для разбіральніцтва па слонімскай справе. Стаяла задача пакласці канец *"бесперапынным даносам Валадковіча"*. Ад Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў у склад камісіі дэлегавалі калежскага асесара Жукава, які выехаў у Слонім.

## Затрыманне былога бурмістра

Каля 7-й гадзіны раніцы 22 ліпеня 1846 года да дома Марціна Валадковіча прыйшоў атрад паліцэйскіх на чале з Суляціцкім. Большасць з іх у пошуках гаспадара зайшлі ў дом. Валадковіч у той момант быў у садзе. Адзін з паліцэйскіх паспрабаваў яго схапіць. Дзеці кінуліся абараняць бацьку. Старэйшая дзяўчынка зачыніла паліцэйскіх на кухні, а аднаго з іх ударылі лыжкай па галаве… Марцін Валадковіч скарыстаўся момантам замяшання, выламаў дошку ў плоце і ўцёк у адным халаце. Прыбег ён на паштовую станцыю, каб там схавацца. А была яна на Замкавай вуліцы. Верагодна на гэтай вуліцы ці ў яе наваколлі ён жыў. Але неўзабаве туды ўварваліся паліцэйскія і затрымалі двараніна. Сведкам гэтага быў чыноўнік Жукаў, які якраз прыехаў з Санкт-Пецярбурга.

Валадковіча павялі да гараднічага Кваціінскага, адстаўнога штабс-капітана, сябра акруговага начальніка Макарава. Менавіта гэты паліцэйскі чыноўнік, а не бурмістр, быў галоўнай асобай у горадзе, кантраляваў паліцыю, кіраваў падаўленнем "масавых беспарадкаў". Марцін Валадковіч прасіў, каб яго не вялі праз цэнтр горада, але паліцэйскія наўмысна выбралі шлях праз плошчу каля гандлёвых радоў. Адныя слонімцы былі ў жаху ад такога відовішча, але былі і тыя, хто смяяўся і здзекаваўся.

Высветлілася, што мясцовы суд без выкліку Валадковіча асудзіў яго на месяц зняволення *"на ўласным утрыманні"*. Ён мусіў заплаціць Макараву 450 рублёў срэбрам і публічна папрасіць у яго прабачэння за *"крыўдныя словы"*. А яшчэ распачалі крымінальную справу за супраціўленне дзясяцкаму Іванову. Нібыта, паліцэйскі быў збіты ў садзе. Клейн адзначае, што ў судзе працаваў адзін з тых, каго Марцін Валадковіч падазраваў у злоўжываннях з лесам. Таму рашэнне было прадказальным. Усе ворагі былога бурмістра аб'ядналіся, каб расправіцца з ім.

## Сялянская акцыя салідарнасці

Тым часам калежскі асесар Жукаў пачаў разбірацца ў справе, вывучаць дакументы. А ў іх былі

*Працяг на ст. 8*

# Абаронца слонімцаў Марцін Валадковіч

*Працяг, пачатак на ст. 6-7*

рэальныя факты. Напрыклад, у маёнтку Вострава чатырох сялян білі розгамі — да 600 удараў. Іван Канановіч не вытрымаў такога жорсткага пакарання і памёр. Там жа арыштоўвалі селяніна Радзівоніка. Яго сямейнікі абаранялі, супраціўляліся, і іх жорстка збілі. Пасля ад пабояў памерлі жонка і дачка.

Да таго ж да Жукава завіталі жонка Ганна і сястра Валадковіча, якія расказалі, што ведалі і бачылі. Чыноўнік са сталіцы дамогся вызвалення Марціна Валадковіча. Ён выйшаў з турмы 9 жніўня 1846 года.

У камісіі такія дзеянні Жукава выклікалі незадавальненне. А ўваходзілі ў яе маёр Тызенгаўзэн з корпуса жандараў, чыноўнікі Гацкевіч і Бараноўскі. У Санкт-Пецярбург паляцелі скаргі і на Валадковіча, і на Жукава. Справу слонімскага дваранінa ўжо пачалі прадстаўляць палітычнай, нібыта ён можа ачоліць сялянскія хваляванні. Але доказаў існавання нейкай "палітычнай змовы" ці "таемнай арганізацыі" не было. І Марцін Валадковіч быў праваслаўным, не католікам. Таму рэпрэсіі супраць яго часова замарудзіліся.

Тым часам Валадковіч набыў вядомасць і папулярнасць сярод сялян у вёсках каля Слоніма. Там ведалі пра яго дзейнасць, пра турму. І здарылася дагэтуль нябачанае: сяляне пачалі збіраць дапамогу для сям'і Валадковіча — грошы і прадукты. Гэта была сапраўдная акцыя салідарнасці ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

## Гуртoк Валадковіча

Мясцовыя чыноўнікі пачалі фіксаваць выпадкі сабатажу і супраціўлення з боку сялян. У некаторых мясцовасцях яны не плацілі падаткі, адмаўляліся аддаваць хлопцаў "у салдаты", падчас следства ніхто не падпісваў паказанняў. У губернскі цэнтр паляцелі паведамленні пра тое, што сяляне становяцца "дзёрзкімі", што іх натхніла вызваленне "бунтаўшчыка" Валадковіча. Прапаноўвалася яго зноў кінуць за краты.

У гэты час Жукава адклікалі са Слоніма. Ён аднак затрымаўся. Высвятляецца, што ў яго з'явілася сімпатыя да Марціна Валадковіча, ён часта бываў у



яго дома. Валадковіча наведвалі слонімскі мешчанін Канановіч, дзяк Камінскі, гродзенскі яўрэй Брук. Яшчэ адзін сябра "гуртка" Антон Календа з нейкай прычыны трапіў за краты. Як піша Клейн, Камінскі служыў пры слонімскім благачынным і, нягледзячы на ціск, заставаўся адданым прыхільнікам Марціна Валадковіча.

Якая ў іх была мэта? Найперш абарона слонімскіх дзяржаўных сялян ад бязмежжа, "ад ліхаімства" з боку арандатараў, перавод іх з баршчыны на аброк. Але сувязі пашыраліся і на суседнія паветы, на той жа Ваўкавыскі.

Даследчык Зміцер Люцік піша, што *"былы губернатар Слоніма"* (насамрэч былы бурмістр) стварыў гурток, і Брук выконваў яго даручэнні — выязджаў у суседнія мясцовасці, у тым ліку і ў Воўпу, для распаўсюду ідэй. У Слонім прыязджалі людзі з Поразава і Новага Двара. Некаторых "хадакоў" паліцыя затрымлівала. Аднойчы была наладжана засада паліцэйскіх каля дома Валадковіча. І калі туды прыйшлі двое сялян і сялянка, іх захапіла паліцыя. Але Валадковіч са сваімі прыхільнікамі адбіў затрыманых! Толькі пазней паліцыя схапіла селяніна Талерчыка.

Упраўляючы Герман "сігналізаваў" у Гродна, што Марцін Валадковіч сабраў у карчме яўрэйкі Цыбкі на Замкавай вуліцы натоўп сялян Слонімскай эканоміі і прамаўляў перад імі. Заклікаў трымацца разам, абяцаў, што будзе і далей выступаць у іх абарону. А яшчэ ён размаўляў з сялянамі ў базарныя дні. Чыноўнікі пісалі губернатару, што "агітацыя" Валадковіча скіравана ўжо і на



*У карчме на Слонімшчыне, сярэдзіна XIX стагоддзя*

памешчыцкіх сялян. Што і да "паўстання" недалёка.

## Жорсткая расправа

Справа слонімскага двараніна дайшла да расійскага імператара Мікалая I. Ён загадаў *"забяспечыць асобу".* Гэта былі страшныя словы, санкцыя на жорсткую расправу з іншадумцам. У красавіку 1847 года Марціна Валадковіча зноў кінулі ў турму ў Слоніме, у асаблівую камеру. Акрамя вартаўнікоў, двойчы на дзень *"надзейнасць замкоў"* правяраў гараднічы. Некаторых сялян, звязаных з Валадковічам, пакаралі розгамі, іншых кінулі ў турму.

Тым часам абноўлены склад камісіі на чале з чыноўнікам Татарынавым скончыў следства па справе, скаргі дваараніна былі прызнаныя "неабгрунтаванымі", а яго самога *"шкодным, злачынным чалавекам"*, якога трэба ізаляваць ад грамадства.

У траўні 1847 года Ганна Валадковіч з цяжкасцю вырвалася са Слоніма ў Санкт-Пецярбург. Больш таго, яна патрапіла ў царскую рэзідэнцыю, але здолела пагаварыць толькі з чыноўнікам. Калі ў пачатку 1848-га ў Слонім прыехаў гродзенскі губернатар Фёдар Васькоў, жонка Валадковіча здолела з ім сустрэцца і папрасіла пашпарт для выезду ў сталіцу, каб зноў прасіць за зняволенага мужа. Губернатар толькі сказаў: *"Калі гасудар не мае над мужам вашым міласэрнасці, то мы тым больш не павінны мець".*

На наступны дзень да дома Валадковічаў прыйшоў гараднічы з паліцэйскімі. *"Выходзьце з дому!",* — загадаў ён. За ўсім назіраў натоўп людзей. Паліцэйскія разграмілі дом, мэблю і рэчы выкідалі проста ў бруд. Забралі нават ложак. Усё гэта Ганна падрабязна апісала ў сваіх скаргах.

У той дзень сястра Валадковіча звар'яцела… Жонка яшчэ трымалася, працягвала пісаць скаргі. У іх згадвала, што мужа трымаюць у "нейкім таемным пакоі", мучаюць голадам, не дазваляюць пісаць.

Таму ж міністру Кісялёву Ганна Валадковіч пісала смела і дзёрзка. Цікавілася, няўжо ён садзіць у турму ўсіх, хто яму паведамляе праўду?

Яна адправіла ў Санкт-Пецярбург, у тым ліку і імператару, не менш за 60 скаргаў. Пошта ў Слоніме адмаўлялася адпраўляць лісты Валадковіч, і яна вымушана была ездзіць на пошты ў іншыя гарады — у Навагрудак, Нясвіж, Слуцк, Мінск. Аднак нічога не дамаглася. Можна ўявіць, што перажыла гэтая мужная жанчына.

*Працяг на ст. 10*

# Абаронца слонімцаў Марцін Валадковіч

*Працяг, пачатак на ст. 6-9*

### Смерць жонкі Валадковіча і адпраўка дзяцей у турму

Зімой 1849 года новы гродзенскі губернатар барон Хрыстафор Ховен (ён займаў пасаду з вясны 1848-га) атрымаў ліст са Слоніма. Яго пісала Аляксандра Валадковіч, старэйшая дачка Марціна і Ганны. Яна паведаміла, што бацька зняволены, а маці памерла. Іх, траіх дзяцей, пасля смерці маці выгналі з дома на моцны мароз, забралі апошнюю маёмасць, скаціну, каня, якія каштаваў 45 рублёў срэбрам. Гараднічы сказаў Аляксандры Валадковіч: *"Ідзі ты да бацькі ў турму, там ваш дом"*. Дзяўчынка пісала: *"І так я з малымі братамі знаходжуся пры бацьку ў турме паміж разбойнікамі і злодзеямі"*. Губернатар запрасіў тлумачэнне і застаўся ім задаволены: малыя дзеці засталіся адны і іх адправілі ў турму *"з спагады"*…

Слонімскае мяшчанскае таварыства звярнулася да ўладаў з просьбай вызваліць Марціна Валадковіча і перадаць яго "на парукі". Яму адмовілі. А ў вязня значна пагоршыўся зрок, узніклі праблемы з правай рукой.

У пачатку 1850 года ў Слоніме з інспекцыяй быў гродзенскі чыноўнік асаблівых даручэнняў Развадоўскі. Ён паведаміў губернатару барону Хрыстафору Ховену, што ў мясцовай турме пад самым строгім наглядам утрымліваецца чалавек, а ў павятовым судзе няма ніякай справы на яго — нібыта яна згарэла падчас вялікага пажару ў горадзе ў ліпені 1848 года.[4] Ад мясцовых чыноўнікаў Развадоўскі даведаўся, што вязень апынуўся ў турме па распараджэнні былога генерал-губернатара *"за нейкае злачынства"*. Відавочна, што яны не ахвотна прыгадвалі дэталі. Пазней "кантралёр" даведаўся, што вязень — дваранін. І што разам з ім былі арыштаваны сяляне Вікенці Макар, Андрэй Макарэвіч, Раман Шабайка, Дзям'ян Федаркевіч, і яны дагэтуль у вязніцы. Вядома, што на допытах арыштанты адмовіліся сведчыць супраць Валадковіча.



*Паліцэйскія ў Расійскай імперыі сярэдзіны XIX ст.*

Праз слонімскага павятовага спраўніка з Гродна Марціну Валадковічу перасалі пытанні, у якіх цікавіліся яго справай. Ён з абурэннем адказваў. Было відавочна, што ён не быў зломлены. Але на люты 1850-га вязню паведамілі, што пра вызваленне пад паручальніцтва не можа быць і гаворкі.



*Губернатар Ховен*

### Нашчадкі Валадковіча

І ўсё ж магчыма, што Марцін Валадковіч выйшаў на волю. Сяргей Токць у сваёй кнізе згадвае, што ў 1851 годзе ў Гродзенскай губерні ўлады збіралі звесткі пра зацверджаных у шляхецтве дробнапамесных дваран. Слонімскі маршалак Яўстах Валовіч падаў даныя толькі ў чэрвені 1852 года. І гэта была *"самая падрабяная інфармацыя ў параўнанні з іншымі паветамі"*.[5] У Слонімскім павеце 28 сем'яў не валодалі нерухомай маёмасцю, але былі зацверджаны ў дваранстве. Сярод іх згадваецца і Марцін Валадковіч (Валадкевіч). *"У Слоніме ён арандаваў дом з садам і займаўся гаспадаркай,* — пераказвае архіўны дакумент гісторык. — *Старэйшы сын яго вучыўся ў Слонімскім павятовым вучылішчы, брат Васіль служыў упраўляючым ў памешчыка Юргялевіча, а*

*пляменнік Тодар з'яўляўся вольнанаёмным пісарам у канцылярыі Слонімскага земскага суда".*[6]

Не мог Яўстах Валовіч падаць у Гродна неактуальную інфармацыю. Значыць, у той час Валадковіч быў жывы і знаходзіўся на волі.

Для высвятлення далейшага лёсу Валадковіча і яго дзяцей патрэбны архіўныя пошукі. Вядома, што ў 1924 годзе нехта Ігнаць (Ігнат) Валадковіч быў сярод заснавальнікаў Слонімскага этнаграфічна-археалагічнага таварыства.[7] У 1935 годзе ён жа надрукаваў у слонімскай польскамоўнай газеце артыкул пра мясцовыя храмы і кляштары.[8] Сваяк героя нашага нарысу?

Магчыма, нашчадкі Марціна Валадковіча і сёння жывуць на Слонімшчыне.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*[1] Токць С. Мясцовая шляхта і дзяржаўная адміністрацыя Расійскай імперыі ў Гродзенскай губерні: лаяльнасць і супраціў. — Гродна, 2019. С. 75.*

*[2] Клейн Б. Найдено в архиве. — Мінск, 1968.*

*[3] Люцік З. Кароткая гісторыя Воўпы // https://harodnia.com/be/uczora/vkl-recz-paspalitaja/572-karotkaya-gistoryya-voupy*

*[4] Ёрш С. Пра пажар у Слоніме ў ліпені 1848 года // Слонімскі край, 2020, № 4(50). Сакавік. С. 8-9.*

*[5] Мясцовая шляхта і дзяржаўная адміністрацыя… С. 69.*

*[6] Тамсама. С. 75.*

*[7] Герасімчык В. Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства (1924-1928) // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік. С. 11.*

*[8] Ёрш С., Чыгрын С. Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916 — 2016). — Мінск, 2016. С. 26.*

ХРОНІКА

# Памятны знак у парку




У Слоніме вырашылі ўсталяваць у гарадскім парку на беразе канала Агінскага помнік ахвярам слонімскага гета — яўрэям, знішчаным нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны. Адкрыццё запланавана на 22 чэрвеня, паведамляе Slonim LIVE. Але чаму ў парку, дзе адпачываюць людзі і праводзяцца забаўляльныя мерапрыемствы?

# Адзначылі 480-годдзе Якімавічаў




12 чэрвеня ў Якімавічах прайшло свята, прысвечанае 480-годдзю вёскі. Ініцыятарам і спонсарам быў Сяргей Тадра, праводзілі свята работнікі Слонімскага раённага цэнтра культуры, народнай творчасці і рамёстваў (фота), філіі Вялікашылавіцкага цэнтра культуры.

# Знішчаны будынак былой бібліятэкі імя Янкі Купалы

У траўні ў вёсцы Вялікая Кракотка ўзарвалі двухпавярховы будынак, у якім калісьці была бібліятэка-музей імя Янкі Купалы, паведамляе Радыё Рацыя. Яе закрылі ў 2008-м на наступны год пасля адзначэння 80-х угодкаў.



СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Зноў пра Майсея Хігрына

Сёлета ў "СК" была зацемка пра нашага земляка юрыста Майсея Хігрына.* Але біяграма аказалася няпоўная. Цяпер жа яе ўдалося ўдакладніць. Напрыклад, стала вядома, што ў 1930-я ён быў старшынём праўлення Яўрэйскага акадэмічнага гуртка па самадапамозе ў Слоніме. З СССР у Польшчу ён выехаў аж восенню 1946 года. Працаваў у пракуратуры ў Варшаве. У дакументах яго імем стала Міхаіл. У верасні 1950-га Хігрын стаў супрацоўнікам Генпракуратуры, быў начальнікам аддзела. У пачатку 1969 года выйшаў на пенсію, а ўжо восенню выехаў за мяжу. Як яму ўдалося атрымаць дазвол? Справа ў тым, што вясной 1968-га Хігрына выключылі з партыі *"за апартунізм, антыпартыйныя пазіцыі"*. На фоне "Пражскай вясны" ў ПНР "закручвалі гайкі", узмацнялася цэнзура, распачалася антысеміцкая кампанія — польскіх яўрэяў



*Плакаты на браме Варшаўскага ўніверсітэта, сакавік 1968 года / PAP*

аб'явілі "пятай калонай". Відаць, Міхаіл (Майсей) Хігрын выказаў сваё абурэнне, чаго было дастаткова.

У 1970 годзе слонімец быў ужо ў ЗША, жыў у Рочэстары, працаваў у юрыдычных фірмах, у банку. У 1983-м ва ўзросце 70 гадоў зноў выйшаў на пенсію.

Хігрын вырашыў… вярнуцца за "жалезную заслону", у Польшчу. У спісе "непажаданых асоб" яго не было з 1980 года, і яму ў канцы 1985-га дазволілі пераехаць у Польскую Народную Рэспубліку на сталае жыхарства. Майсей (Міхаіл) Хігрын памёр у 1988 годзе ў Варшаве.

●Генадзь Гурскі

**Гурскі Г. Майсей Хігрын // Слонімскі край, 2021, № 4(63). Красавік. С. 15.*

***Marzec 1968 w dokumentach MSW, t. 2: Kronika wydarzeń, cz. 2. — Warszawa, 2018. С. 542.*

# Гісторык кіно Яўгенія Хігрына са Слоніма

У Майсея (Міхаіла) Хігрына была сястра Яўгенія Навумаўна. Яна нарадзілася ў Слоніме 29 лістапада (па іншых звестках — 29 верасня) 1922 года. У родным горадзе атрымала сярэднюю адукацыю. У 1940-м Яўгеніі Хігрын удалося атрымаць дазвол на выезд на вучобу ў Маскву. Яна паступіла на гістарычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У сталіцы СССР жыла цётка сланімчанкі, і Яўгенія ўладкавалася ў яе. *"Таленавітая і абаяльная"*, — так гаварылі пра Хігрын яе сябры.

25 жніўня 1944 года ў Маскве Яўгенія Хігрын узяла шлюб са студэнтам-гісторыкам Міхаілам Гелерам (1922 — 1997). Гелер — ураджэнец Магілёва. Ён быў гісторыкам, публіцыстам, літаратуразнаўцам. 8 сакавіка 1945-га ў маладой сям'і нарадзіўся сын Леанід.

Хігрын спецыялізавалася на гісторыі славянскіх краін. Пасля заканчэння МДУ яна ўладкавалася на Радыё Масква, працавала ў польскай рэдакцыі. Калі ў Маскву прыязджалі польскія дэлегацыі, яна іх суправаджала. Так Яўгенія пазнаёмілася з рэжысёрам Анджэем Вайдам.

У 1951 годзе Міхаіла Гелера арыштавалі і асудзілі на 15 гадоў лагероў за "антыдзяржаўную дзейнасць". Праз пяць гадоў ён выйшаў на волю па амністыі.

Яўгенія Хігрын і Міхаіл Гелер вырашылі з'ехаць у Польшчу па рэпатрыяцыі. Гэта стала магчымым, дзякуючы польскаму грамадзянству сланімчанкі. У адпаведнасці з савецка-польскай дамовай ад 1945 года, польскімі грамадзянамі прызналі выхадцаў з Польшчы, у тым ліку польскіх яўрэяў. Усе яны мелі права на рэпатрыяцыю.

Яны прыбылі ў ПНР у самым пачатку 1957 года, жылі ў Варшаве. Магчыма, Яўгеніі дапамагаў брат. Яна скончыла факультэт гісторыі кіно ў варшаўскай Нацыянальнай школе кінематаграфіі (кіно было яе захапленнем), абараніла доктарскую дысертацыю па яўрэйскім кіно ў міжваенной Польшчы. У 1960-я яна працавала ў Музеі кіно ў Варшаве, пісала артыкулы ў часопісы. Міхаіл Гелер уладкаваўся на працу ў Польскае агенцтва друку ў рэдакцыю навін для замежнікаў, наладзіў кантакты з польскімі інтэлектуаламі.

Як успамінае Леанід Гелер, *“дзякуючы арганізатарскім здольнасцям маці”*, яна з Міхаілам Гелерам, маючы магчымасці для паездак на Захад, аб’ездзілі ўсю Заходнюю Еўропу. Гелер ездзіў і ў СССР, прывозіў адтуль самвыдат (яго сын казаў, што бацька *“забяспечваў таемную сувязь паміж рускімі і польскімі дысідэнтамі”*, а пасля і з рускай эміграцыяй). Дзякуючы яму, “Калымскія апавяданні” Варлама Шаламава былі перапраўлены спачатку ў Польшчу, а пасля — у Францыю.

У Гелераў узнікла ідэя застацца на Захадзе (Леанід перакананы, што гэта быў план маці). Да гэтага падштурхнула антысеміцкая кампанія ў ПНР і ўступленне савецкай арміі ў Чэхаславакію. Восенню 1968-га Гелеры ў адпачынак паехалі ў Францыю (афіцыйна — для лячэння Міхаіла) і зацягвалі адтуль вяртанне. Яны чакалі выезду з Польшчы сына Леаніда, які заставаўся ў Варшаве да сакавіка 1969-га.

Французскае грамадзянства яны атрымалі ў 1975-м. Яўгенія Гелер выкладала рускую мову і культуру ў Сарбоне, публікавала артыкулы пра савецкае кіно. Міхаіл Гелер да 1987 года выкладаў у Сарбоне савецкую літаратуру, абараніў доктарскую дысертацыю, пад псеўданімам публікаваўся ў парыжскім часопісе “Культура” Ежы Гедройця, напісаў некалькі кніг, у тым ліку шматтомную “Утопія каля ўлады” (разам з




Аляксандрам Некрычам).

Яўгенія Гелер (Хігрын) памерла 23 верасня 1986 года ў Парыжы. Міхаіла Гелера не стала 3 студзеня 1997-га. Ён вельмі моцна перажываў смерць жонкі, казаў сябрам, што быў шчаслівы, пакуль жыла Яўгенія.

На жаль, фота Яўгеніі Гелер (Хігрын) знайсці пакуль не ўдалося.

●Генадзь Гурскі



*Ежы Гедройць і Міхаіл Гелер, 1989 год / kulturaparyska.com*

# “Агародніцтва з прамысловай мэтай”

*Нѣсколько свѣдѣній о современномъ состояніи сельскаго хозяйства и промысловъ въ Гродненской губерніи. — Гродна: изданіе Гродненскаго статистическаго комитета, 1872.*


НѢСКОЛЬКО СВѢДѢНІЙ
О
СОВРЕМЕННОМЪ СОСТОЯНІИ
СЕЛЬСКАГО ХОЗЯЙСТВА И ПРОМЫСЛОВЪ
ВЪ ГРОДНЕНСКОЙ ГУБЕРНІИ.

ИЗДАНІЕ ГРОДНЕНСКАГО СТАТИСТИЧЕСКАГО КОМИТЕТА.

ГРОДНА.
1872.

Въ типографіи губернскаго правленія.

У 1872 годзе Гродзенскі статыстычны камітэт выдаў кнігу пра стан сельскай гаспадаркі і прамысловасці ў Гродзенскай губерні. Аўтары абагульнілі сабраныя звесткі, у тым ліку і па Слонімскім павеце (а ён, нагадаю, быў значна большы за цяперашні Слонімскі раён). Перад гэтым у кожную воласць дасылаліся апытальнікі. 184 воласці губерні адказалі, а 8 — не. Сярод апошніх аказалася і Шылавіцкая воласць. Апытальнікі таксама атрымлівалі памешчыкі, чыноўнікі, лекары, святары і павятовая паліцыя.

Кніга дае важныя звесткі пра тое, як у той час жылі нашыя продкі. Напрыклад, якія сельскагаспадарчыя культуры былі папулярныя ў сялян і памешчыкаў, якія былі асаблівасці ў пэўных рэгіёнах. Высвятляецца, што *“саджаецца* [тытунь] *толькі ў агародах і вельмі рэдка — на кавалках зямлі ў дзесяціну толькі ў двух паветах губерні”* — ў Бельскім і Слонімскім.

*“Тытунь “махорка” сеецца толькі некаторымі сялянамі ў паветах: Сакольскім, Бельскім і Слонімскім…”,* — чытаем на іншай старонцы. На Слонімшчыне згадваюцца Ружаны, дзе згаданы тытунь сеялі ў агародах *“у некалькі большай колькасці, таму лішкі (у некалькі дзясяткаў пудоў) прадаюцца ці на месцы гандлярам, ці ў мясцовыя тытунёвыя фабрыкі”.*

У кнізе таксама чытаем, што *“вялікія агароды з прамысловай мэтай існуюць, можна сказаць, толькі ў г. Слоніме… у мясцовых татар”.* Плошча іх агародаў складала агулам *“не менш за 30 дзесяцін”.*

Шмат увагі надаецца садаводству. Сады ў сялян сустракаліся рэдка (ва ўсёй Чамярской воласці *“маленькія садзікі”* былі толькі ў 19 сялянскіх гаспадарках), у асноўным яны былі ў памешчыкаў, радзей — у духавенства. Але ў той час садаводства ў памешчыкаў было ў заняпадзе, а ў сялян пачало развівацца. Аўтарамі цытуецца адказ слонімскага спраўніка, які піша, што памешчыкі пачалі здаваць сады ў арэнду, а арандатары (яўрэі) пра іх не дбаюць, толькі збіраюць і рэалізуюць ураджай. Добрае арандаванае дрэва ў Слонімскім павеце прыносіла даход каля 1 рубля. Чаму памешчыкі аддавалі сады ў арэнду? Не хапала садоўнікаў і работнікаў, якія

# Шчаслівы настаўнік



“Аднаму народнаму настаўніку з сялян банк адмовіў у пазыцы на набыццё кавалка зямлі таму, што ён прыйшоў у банк не ў світцы, як ходзяць сяляне, а ў пінжаку. Таму спатрэбілася хадайніцтва да міністра фінансаў [Расійскай імперыі], якім пазыка і была дазволена. Цяпер гэты шчаслівы настаўнік на трох ці чатырох дзесяцінах у наваколлі гор[ада] Слоніма арганізаваў такую выдатную маленькую гаспадарку… На гэтай гаспадарцы ёсць чаму павучыцца і яна мае моцны ўплыў на навакольных сялян. (*“Гол*[ос] *Москвы”*, 1910, № 168)”.

Цытуецца па наступным выданні: *Быстров Н. Новые крестьянские хозяйства в Пензенской губернии: (записки туриста). — Пенза, 1911. С. 322.*

# “Агародніцтва з прамысловай мэтай”

*Працяг, пачатак на ст. 14*

імі маглі займацца, ці не было грошай, каб ім плаціць за працу. У той час у Гродзенскай губерні разводзілі яблыні, грушы, слівы, вішні, агрэст, парэчкі. Плады сушылі ці рабілі варэнне.

У Слонімскім павеце большасць *“значных маёнткаў”* былі здадзены ў арэнду *“амаль без выключэння — яўрэям”.* Іншыя памешчыкі наймалі парабкаў (мужчына атрымліваў 30 рублёў за год, жанчына — 16 рублёў) і падзённых працаўнікоў (мужчына атрымліваў 30 капеек, жанчына — 20 капеек). У кнізе адзначаюцца цяжкасці, з якімі сутыкаліся памешчыкі ў пошуку працаўнікоў — сяляне, якія мелі дастаткова зямлі і сенажаці, не мелі патрэбы ў падобнай “падпрацоўцы”, ды і не мелі на гэта часу. Вось і не было магчымасці хутка прыбраць памешчыцкі ўраджай. Таму яны і вымушаны былі шукаць арандатараў. Маёнтак “Ісаевічы” ў Адама Бронскага арандаваў купец Літман Эпштэйн, маёнтак “Дзераўная” таго ж Бронскага і маёнтак “Харашэвічы” Канстанціна Гартынга — купчыха Брайна Рабіновіч, маёнтак “Старыя Жыровічы” Мікульскіх — купец Файвель Гелер.



Ва ўсёй Гродзенскай губерні ў той час Слонімскі павет быў на першым месцы па колькасці млыноў — 194. З іх 174 былі вадзяныя, 12 — ветраныя, 7 — конныя, 1 — паравы. Гэты апошні дзейнічаў у Слоніме і належаў купцу Калману Буткоўскаму. На ім працавала 8 рабочых, а на ўсіх млынах у павеце — 235.

Гродзенскі статыстычны камітэт сабраў шмат іншай інфармацыі пра Слонімшчыну: пра ўгнаенні, пра передавыя метады вядзення сельскай гаспадаркі, пра лесапілкі, пра прыстані і г. д. Слонімшчына на фоне іншых паветаў выглядала добра.

●Сяргей Ёрш

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Этнограф і археолаг Максім Левін

16 кастрычніка (29-га — па новым стылі) 1904 года ў Слоніме нарадзіўся Максім Рыгоравіч Левін, вядомы савецкі навуковец — антраполаг, этнограф, археолаг, доктар гістарычных навук, прафесар. Яго бацька быў лекарам. У 1919-м ён памёр, і Максіму давялося зарабляць на жыццё. Левін успамінаў, што паспеў скончыць у Слоніме мясцовую школу. Ён нейкі час зарабляў прыватнымі ўрокамі.

У савецкую Расію Максім Левін трапіў восенню 1920 года. Калі летам у горад прыйшлі бальшавікі, ён далучыўся да працы павятовага рэўкама. Пасля разгрому Чырвонай Арміі пад Варшавай пачалося яе імклівае адступленне на ўсход. Да Слоніма набліжаліся польскія войскі. Каб пазбегнуць рэпрэсій, савецкія актывісты намагаліся выехаць разам з адступаючымі чырвонаармейцамі. Сышоў на ўсход і Левін.

Слонімец дабраўся да Масквы. Ён хацеў вучыцца, і ў 1921-м паступіў у Маскоўскі дзяржуніверсітэт. У 1925 годзе Максім Левін яго скончыў, праз тры гады — аспірантуру пры Навукова-даследчым інстытуце антрапалогіі. З 1933-га ён быў навуковым сакратаром Інстытута антрапалогіі МДУ.

Максім Левін стаў адным з найлепшых спецыялістаў у галіне этнічнай антрапалогіі народаў Сібіры, Далёкага Усхода і Японіі. Ён не быў кабінетным навукоўцам, праводзіў шматлікія палявыя даследаванні. Ужо ў 1926 годзе быў у Туве, пасля вывучаў Прыбайкалле, Алтай, узбярэжжа Ахоцкага мора, Сахалін, Чукотку, раён Амура.



*Максім Левін*

Левін не толькі даследаваў жыццё мясцовых народаў, але і займаўся сярод іх асветніцкай працай, удзельнічаў у падрыхтоўцы буквара эвенскай мовы.

Максім Левін два дзесяцігоддзі (з 1943 года) быў намеснікам дырэктара Інстытута этнаграфіі Акадэміі навук СССР, быў загадчыкам сектара антрапалогіі, кіраваў антрапалагічнымі і этнаграфічнымі даследаваннямі, выдавецкай дзейнасцю. Ён — аўтар шматлікіх навуковых публікацый, манаграфій. Пра Левіна пішуць, што ён *"зрабіў значны ўнёсак у метадалогію і методыку вывучэння такой*

*вельмі складанай гістарычнай з’явы, як этнагенез”.* Матэрыялы, сабраныя навукоўцам у 1920-1930-я гады, якія захоўваюцца ў архіве Інстытута этналогіі і антрапалогіі Расійскай Акадэміі навук, і сёння вельмі каштоўныя (напрыклад, па шаманстве), выкарыстоўваюцца ў найноўшых публікацыях.

Сваім вучням Максім Левін казаў: *“Цікавых і важных тэмаў у навуцы заўсёды будзе больш, чым даследчыкаў”.**

Цяжка хворы, навуковец працягваў удзельнічаць у палявых даследаваннях. Апошні раз — у 1962-м. Максім Левін памёр 18 красавіка 1963 года ў Маскве, пахаваны на Данскіх могілках.

Сын слонімца Рыгор Максімавіч Бонгард-Левін (1933 — 2008) таксама з’яўляецца вядомым навукоўцам. Ён — доктар гістарычных навук, прафесар, вывучаў гісторыю і культуру Індыі, Цэнтральнай і Паўднёвай Азіі.

●Сяргей Ёрш

**Герасимова М., Васильев С. Максим Григорьевич Левин (1904 - 1963) — антрополог и этнограф, исследователь народов Сибири и Дальнего Востока // Universum Humanitarium (Навасібірск). 2016, № 2. С. 129.*




# На вакзале ў Слоніме павесіў таблічку “Ліда”...




*Станцыя “Слонім”, якая часова стала “Лідай”. Кадр з мастацкага фільма “У жніўні 1944-га…”*

З інтэрв’ю беларускага мастака-дэкаратара Івана Рагаценя “Народнай газеце” (2021, № 22, 4 чэрвеня) пра здымкі ў 1999 годзе ў Слоніме мастацкага фільма “У жніўні 1944-га…” (рэжысёр — Міхаіл Пташук):

*“Два таленавітыя мастакі працавалі ў карціне: спачатку Аляксандр Чартовіч, пасля Уладзімір Дзяменцьеў. Былі арганізаваны экспедыцыі ў Гродна і Слонім. Штаб будавалі ў павільёне кінастудыі “Беларусьфільм”. Памятаю, як на* [чыгуначным] *вакзале ў Слоніме павесіў таблічку “Ліда”, якая красавалася дзесяць дзён. Пасажыры цягнікоў, якія праязджалі, думаю, вельмі здзіўляліся… У Слоніме было задзейнічана мора масоўкі. Мастак Аляксандр Чартовіч прыдумаў бліскучы эпізод, калі Віктар Паўлаў, што выконваў ролю начальніка харчовага склада, і Яўген Міронаў праходзяць праз мноства пустых скрыняў [і бочак]. Атрымаўся такі зігзаг, які аператар Уладзімір Спорышкаў бліскуча зняў, хаця дронаў тады не было”.*



*Яўген Міронаў і Віктар Паўлаў. Эпізод, зняты каля станцыі “Слонім”, дзе былі пабудаваны дэкарацыі “харчовага склада”*

# Справа аб кантрабандзе, 1838 год



У 1838 годзе ў Слоніме затрымалі нясвіжскага яўрэя Янкеля Лейбовіча Броўну. Паліцыя выявіла, што ён перавозіў кантрабандны ром. Каня, воз і груз канфіскавалі. Паколькі яшчэ трэба было дачакацца суда, у паліцыі задумаліся, што рабіць з канём. Каб здабыць для яго корм, кантрабандыста пад вартай адправілі на слонімскі рынак купіць сена. Ніхто не чакаў, што проста ў цэнтры горада на паліцэйскага, які суправаджаў затрыманага, адбудзецца напад. Група яўрэяў чамусьці вырашыла адбіць Янкеля Броўну і ім гэта ўдалося! Праўда, у рукі паліцыі трапіў Абрам Моўшавіч Канвісар, *"які дзясяцкага Супруна, што трымаў арыштанта, біў палкай па руках"*.[1]

Працяг гэтай гісторыі трэба шукаць у гродзенскім архіве. А пакуль удалося даведацца, што па гэтай ці па іншай кантрабандысцкай справе з 28 красавіка да 25 траўня 1838 года ў Слоніме знаходзіўся *"ваенна-павятовы начальнік"* падпалкоўнік Сцяпанаў. Ён праводзіў *"вышуковыя мерапрыемствы"* па справе аб кантрабандзе.[2] У наш горад падпалкоўнік прыехаў з Белавежскай пушчы, дзе ён цэлы тыдзень правяраў інфармацыю пра нібыта закапаную паўстанцамі ў 1830-1831 гадах зброю. Гэта быў вопытны спецслужбіст. Можна не сумнявацца, што з кантрабандыстамі ў Слоніме ён разабраўся.

Кантрабанда была сур'ёзнай праблемай у памежных губернях Расійскай імперыі. Напрыклад, губернская газета ў Вільні вясной-летам 1838-га рэгулярна пісала на гэтую тэму. Там змяшчаліся абвесткі пра пошук яўрэяў-кантрабандыстаў, а аднаго з іх шукалі амаль 20 гадоў.

●Генадзь Гурскі

*[1] Соболенко О. "Приют честных контрабандистов": евреи белорусской части черты оседлости в системе нелегального перемещения грузов через границу (конец XVIII—XIX вв.) // Труды по еврейской истории и культуре. Материалы XXI Международной ежегодной конференции по иудаике. Выпуск 50. — Москва, 2014, С. 79.*

*[2] Луговцова С. Полицейские органы на территории белорусских губерний Российской империи в 30-40-е гг. XIX в.: формирование и деятельность // Органы государственной власти и местного самоуправления: традиции и современность (к 150-летию земской реформы в России). Материалы Международной научно-практической конференции; 13 ноября 2014 г.; Псков, Россия. — Псков, 2015. С. 135.*

## ХРОНІКА

# Паштоўка да 215-годдзя Міхала Валовіча



Міхал ВАЛОВІЧ
(1806-1833)

Сяргей Чыгрын выдаў паштоўку, прысвечаную нашаму славутаму земляку, паўстанцу Міхалу Валовічу. Ён нарадзіўся 18 чэрвеня 1806-га ў Парэччы на Слонімшчыне. На мясцовых могілках ёсць яго сімвалічная магіла.

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



*Слонімцы і нямецкія вайскоўцы на канцэрце ў парку ў Слоніме, 1916 г.*

*Працяг, пачатак у № 5-8, 10-11, 2019 г., № 3, 4, 6 і 9, 2020 г., № 5, 2021 г.*

Слонім. Для святкавання гадавіны Фонду Тарноўка, заснаванага па ініцыятыве яго правасхадзіцельства фон Войрша[1] ў гонар памяці аб бітве пад Тарноўкай, у слонімскім тэатры адбыўся дабрачынны канцэрт. У канцэрце прымаў удзел добра вядомы ў Баранавічах канцэртмайстар і скрыпач Вілі Хэнэль (Берлінскі аркестр Блютнэра[2]), віяланчэліст Роцінг (таксама Берлін), палявы дантыст доктар Элкан (спевы), помочнік лекара А. Тома (раяль).

Натоўпы нашых салдат — аматараў музыкі, накіраваліся ў рускі храм муз. Ужо ў папярэднія дні, напярэдадні амаль усе квіткі былі раскупленыя. На жаль, гасцям з мясцовых жыхароў дасталася мала квіткоў. Яго правасхадзіцельства генерал Войрш з'явіўся ў зале ў суправаджэнні вялікай групы афіцэраў. Адкрыўся канцэрт высокаэмацыйным выкананнем "Аве Марыя" Баха — Гуно[3] (скрыпка, віяланчэль, фартэпіяна, фізгармонія). Затым канцэртмайстар Хэнэль парадаваў слухачоў эфектным выкананнем раманса і гавота з "Мігнона". Роцінг таксама паказаў сябе як выдатны майстар-віртуоз. Палявы дантыст доктар Элкан цалкам прафесійна выконваў песні фон Лёвэ[4] і ўрыўкі з опер Вагнера.[5] Яго мяккі і насычаны барытон быў цёпла сустрэты слухачамі. Гледачы не адпускалі яго са сцэны, пакуль ён яшчэ не праспяваў — "на дабаўку" шуманаўскую "Песню вандроўніка".[6]

Хэнэль і Роцінг таксама сарвалі бурныя апладысменты. Акрамя таго, скрыпачу дастаўся яшчэ на памяць аб выступе ў Слоніме лаўровы вянок і свежы паляўнічы трафей — вялікі заяц. Поспеху канцэрта спрыяла і цудоўная суправаджальная музыка раяля ў выкананні помочніка лекара доктара Тома.

Малодшы лейтэнант Фэст

*Kriegszeitung von Baranowitschi ("Ваенная газета ў Баранавічах"), 1917, № 89, 7* лістапада.

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі

*[1] Марцін Вільгельм Ремус фон Войрш (1847 — 1920) — генерал-фельдмаршал, падчас Першай сусветнай вайны галоўнакамандуючы армейскай групай "Войрш".*

*[2] Нямецкі сімфанічны аркестр, які выступаў у Берліне з 1907 года.*

*[3] Музычны твор французскага кампазітара Шарля Франсуа Гуно на аснове прэлюдыі Ёгана Себасцьяна Баха (1859).*

*[4] Ёган Готфрыд Карл Лёве (1796 — 1869) — нямецкі кампазітар.*

*[5] Рыхард Вагнер (1813 — 1883) — нямецкі кампазітар.*

*[6] Роберт Шуман (1810 — 1856) — нямецкі кампазітар.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Уручэнне ўзнагарод вайскоўцам, 1927 год



На здымку бачым уручэнне брыгадным генералам польскага войска Альгердам Пажарскім (1880 — 1930) узнагарод вайскоўцам 79-га пяхотнага палка. Здымак зроблены ў Слоніме ў 1927 годзе. Яго ў 1998-м апублікаваў акруговы музей у Бялай Падлясцы ў буклеце, падрыхтаваным да часовай выставы.*

Пажарскі быў прызначаны камандзірам 20-й пяхотнай дывізіі ў лістападзе 1926-га. Яе штаб знаходзіўся ў Баранавічах. У склад дывізіі ўваходзілі 79-ы і 80-ы пяхотныя палкі, якія дыслакаваліся ў міжваенны час у Слоніме.

У 1930-м генерал Альгерд Пажарскі памёр падчас знаходжання на палігоне пад Баранавічамі.

Уручэнне ўзнагарод найхутчэй адбывалася пасля вучэнняў 79-га палка, за якімі назіраў брыгадны генерал. Невядома дзе яны адбываліся і дзе ўзнагароджваліся вайскоўцы. Што за драўляны будынак мы бачым?

Не заўсёды вучэнні 79-га пяхотнага палка заканчваліся пазітыўна. У 1935 годзе прадстаўнік камандавання 20-й дывізіі палкоўнік Людвік Бацянскі сваёй жорсткай крытыкай фактычна справакаваў самагубства маладога падхарунжага Максімільяна Келбасы. Ён застрэліўся.**

●Генадзь Гурскі

*http://bbc.mbp.org.pl/Content/1181/Binder8.pdf*



*Альгерд Пажарскі*

***СЁ. Трагічнае здарэнне ў 79-м пяхотным палку // Слонімскі край, 2021, № 2(61). Люты. С. 13.*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.